ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 20 ГР.

# ПОКЛІЧ

ТЫДНЁВАЯ ВУЧНЁЎСКАЯ ЧАСОПІСЬ ВБГ.

N 1 — Нядзеля 6 сакавіка 1927 году — Год I



Выпускаючы ў сьвет нашу невялічкую часопісь, перадусім, адзначым тыя прычыны, якія падалі нам думку выдаваць яе. У сучасны момант ува ўсей Заходняй Беларусі няма ніводнай часопісі моладзі. Недахват гэткай часопісі, асабліва, востра адчуваем мы — моладзь. З гэтай прычыны мы задаліся мэтай выпусьціць падобную часопісь, у якой маглі б выказываць свае думкі і погляды. Трэба адзначыць, што заданьнем нашым ня ёсьць замяніць у поўнасьці паважную часопісь, бо на гэта мы ня маем ні духовых, ні матар'яльных сродкаў. Пакуль што, выпускаем па меры магчымасьці, але ўсё-ж маем надзею з цягам часу пераварыць яе ў больш адпавядаючую заданьням моладзі. Думкай нашай ёсьць зварухнуць вучнёўскую моладзь да інтэнсыўнай працы над самаасьведамленьнем, самавыхаваньнем. Бо тым, што дае нам школа, мы здаволіцца не павінны. Нам трэба самім, незалежна ад школьнай навукі, імкнуцца да развіцьця, як духовага, так і фізычнага. Трайкі ужо тыя, [illegible]

калі вучні "забівалі галавы, вечна, як кажуць „зубрашкай". Цяпер, апрача адрабляньня лекцыяў, мы павінны падумаць і аб чым іншым. Нам трэба падгатавацца да будучай грамадзкай працы. Ведаць адныя матэматычныя формулкі — гэта замала для таго, каб уступіць на жыцьцёвы шлях. Трэба прыглядацца і прыслухоўвацца да акружаючага жыцьця, каб вышаўшы з школьных муроў, не апынуцца на раздарожжы. Трэба выбраць той шлях, які вядзе ўвесь народ да лепшай будучыні.

## ТАВАРЫШЫ!

ПІШЫЦЕ Ў НАШУ ЧАСОПІСЬ. ПАДТРЫМОЎВАЙЦЕ ЯЕ, ЯК ДУХОВА, ТАК І МАТЭР'ЯЛЬНА!

ВАРТАСЬЦЬ ЯЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ВАС!

ВЫКАЖАМ СВАЮ ЗДОЛЬНАСЬЦЬ ДА ПРАЦЫ!

---

### Маленькі Фэльетон.

Выбягаю я з клясы і, не зважаючы ні на што, прусь маланкай на кухню, бо жывот за шэсьць лекцыяў так падцягнула, што ня ведаю нават да чаго параўнаць. Бягу і думаю: „вось ужо наемся". Убягаю ў кухню, кідаю на вакно кніжкі і бяруся хутчэй есьці. Зьеўшы порцыю і пабачыўшы, што няма дабаўкі, хапаю кніжкі, ды бягу ў інтэрнат, бо трэба ісьці браць трубу і вучыцца розныя гамы пакуль ня прыйшоў вучыцель музыкі, а не, дык бяда. І так, да самага вечара: дуў, дуў — аж галава забалела, а вучыцель прыйшоў — яшчэ паправіўся. І апынуўся на свабодзе ўжо каля гадз. сёмай. Павячэраўшы, пасьля гэтага, пайшоў у шостую клясу, бо хацеў адрабіць лекцыі. Але ня тут-та было. Звычайна, пасьля вячэры, у нашых хлапцоў ажывае вясёласьць прыціснутае голадам і дзеля гэтага ў клясе пануе крык, гоман, сьвіст, піск. Самі пасудзіце якое было адрабляньне лекцыяў. Я-ж таксама ня лыкам шыты і стараўся не адставаць ад іншых. І не ўспеў я азірнуцца, як прыйшла дзе-

## Хроніка

### Аб часопісі „Наперад“.

У пачатку школьнага году, вучні В.Б.Г, пастанавілі выдаць часопіс пад назовам „Наперад“. У гэтай справе быў склікан сход, на якім пастанавілі безадкладна прыступіць да працы. Але, як хутка браліся, так хутка і селі. І часопіс „Наперад“ у працілежнасьць свайму назову не пасунуўся ані ўзад, ані ўперад. Чым гэта вытлумачыць?!

### Аб працы гуртка моладзі пры ВБГ.

У. Першы

## Покліч

Гэй, да працы, браце, бярыся!
Час на дарма не марнуй.
Віхрам, бурай пранясіся,
І над сьветам запануй!
Падыміся арлом к небу,
Дый ўзглянь на родны край.
Зразумей, яго патрэбу,
Сілы новай яму дай.
Як маланка, гром нясіся;
Як-бы вецер, ураган.
Так да працы ты вазьміся
Дый згані з вачэй туман!
Годзе спаць табе, мой браце,
Час прачнуцца, пагледзець.
Сіл сваіх у сябе хваце
У іх ты веру мусіш мець.
Дык, да працы, браты за волю
Здабываць нам новы шлях,
За шчасьцё сваё і долю
Зробім ўперад дружны шаг!

Пры Гуртку моладзі Віл. Бел. Гімназіі існуе каля 20 роз. сэкцыяў, як напр: літэратурная, драматычная, мастацка

вятая гадзіна. Я аж здрыгануўся са страху і пабег як мага на гару, думаючы, хоць там адрабіць лекцыі. Але, дарма! Толькі ўзяў я слоўнік у рукі, як раптам сыгнал спаць. Я пачаў з жарам зубрыць: мэнса — стол, мэнса — стол і так мо' тысячу разоў. Ой, што я, не! — разоў сто. Праз мінуту, так дарагое для мяне сьвятло, патухла і я быў прымушаны з болем у сэрцы ісьці спаць. Каб пацешыцца аднак думаю: „Нічога, заўтра чуць сьвет устану і вывучу“. Але ня суджана было збыцца маім думкам. Прачнуўся я так позна, што ня ўсьпеў памыцца, як ужо зазванілі на сьнеданьне. На сьнеданьні мяне пацешылі навіной, што мне калейка ваду насіць. Тут я і рукі апусьціў. Пакуль пасьнедаў і нанасіў вады, дык і лекцыі пачаліся. Усяго ці не, думаю, бо ведаю, што на першай лекцыі вельмі сярдзітны вучыцель. Ну, што будзе, то будзе — пайду. Уваходжу. Але, як і трэба было чакаць, вучыцель накінуўся на мяне са словамі: „Ты чаго позьнішся?! Выходзь з клясы!“ Я адказаў, што насіў ваду на кухню. „Трэба мець запіску!“ Я завярнуўся і вышаў. Сьпярша пусьціўся бегчы па запіску, але ўспомніўшы, што кухаркі ня ўмеюць пісаць, сумна паплёўся ў інтэрнат.

Асот.

эсперанцкая і шмат іншых. Працуюць аднак толькі некаторыя з іх. Апошнімі днямі заложылася яшчэ сэкцыя фізычнага развіцьця. Жадаем ёй посьпеху у працы.

Рэфэрат.

28. II. 27 г. а 3 гадз. у Віленскай Бел. Гімн. быў прачытаны рэфэрат на тэму: „Што такое коопэрацыя". Пажадана было-б, каб часьцей былі падобныя рэфэраты. Трэба толькі адзначыць, што вучні ня надта цікавяцца імі. Можа таму на ператкодзе стаў неадпаведны час, які выбраў лектар (пасьля лекцыяў кожны сьпяшыць на абед).

Вечарына.

У суботу 5/III-27 г. у залі Віл. Бел. Гімн. адбылася вечарына. Была пастаўлена „Кветка Папараці" — эцюд у 1 дзеі. Падрабязную справаздачу дамо ў наступным нумары.

Куток гумару.

Нашай рэдакцыі ўдалося даведацца, па сакрэту, што вучні, якія жывуць у інтэрнаце, пастанавілі ўсе купіць моцныя паскі з вялікім лі... кам дзірачак. На што? — запытаецца чытач. Той, хто пажыў у інтэрнаце, зразу... на што гэтыя паскі. Як... аказываюць нямалую услу... нашым хлопцам. Пачнуць кішкі марша граць — возьм... і зацісьнеш пасак на некалькі дзірачак, каб ня чу... гэтых прыемных мэлёдыяў. Калі-ж пад'есі сытна, дык можна і адпусьціць, каб лягчэй было дыхаць. Геніяльны вынаход, ці-ж ня праўда?!

—o—

Вучыў...

Вучыцель. (да вучня) Ты лекцыю вучыў?

Вучань. Вучыў. —

Вучыцель. Ну, дык адказывай.

Вучань. А, што была задана?...

— ?!

Грыбок

Рэдакцыя просіць супрацоўнікаў падаваць свае творы перапісаныя на чыста і разборчывым характарам. Па ўсіх справах, датычачых рэдакцыі, просім звяртацца да вуч. V кл. кал. Тарасюка. Яму таксама належыць падаваць творы і песьні ў рэдакцыю.